Аднойчы, калі Віта, як звычайна, ішла ды малявала крэскі пасярэдзіне дарогі,
здарылася нешта нечаканае. Хлопчык зваліўся ў вядро з фарбай!
Хлопчык, які прыляцеў з ветрам.
Але ён знік гэтак жа хутка, як і з'явіўся.
Хто ён такі?
Раптам Віта адчувае сябе вельмі адзінокай.
Яна хоча зноў сустрэць гэтага хлопчыка!
Але як адшукаць кагосьці, каго здзьмуў вецер?



ISBN 978-985-7089-77-2



Сара Лундберг

# Віта Белая Крэска і Эйвінд











Віта—Гэта дзяўчынка, якая заўсёды ідзе.
Увесь час наперад.
І пакуль ідзе, малюе яна крэскі.



Белыя, доўгія, а часам — кароткія.
Адны танюткія, а іншыя тоўстыя,
каб машыны разумелі, куды ехаць:
сюды ці туды.

Атрымліваецца прыгожа, мяркуе Віта
і працягвае няспешна маляваць
крэску
за крэскай.



Аднойчы,
калі яна малявала,
хтосьці зваліўся акурат
у ейнае вядро з фарбай.

Віта моцна
здзівілася.





— ШТО ТЫ РОБІШ?!

— Прабач! — кажа хлопчык
і адыходзіць крыху ўбок.

Але застаюцца сляды.

— ДОСЫЦЬ! — Віта злуецца.

Хлопчык спыняецца.

Хвілінку яны глядзяць адно на аднога.

— Па-мойму, атрымалася прыгожа, —
кажа хлопчык.

Віта маўчыць.

— Паспрабуй сама, —
прапаноўвае ён.



— ГЭТА МОЙ ШЛЯХ
І Я ЗБІРАЛАСЯ НАМАЛЯВАЦЬ ТУТ КРЭСКІ!
ЦЯПЕР УСЁ САПСАВАНА,
І Я НЕ МАГУ ПРАЦЯГВАЦЬ ДАЛЕЙ.

— Працягваць куды?

— ПРОСТА НАПЕРАД!

А куды гэта — проста наперад?

— Я НЕ ВЕДАЮ! ПРОСТА НАПЕРАД.

— Так, а ўяві сабе, што твой шлях пойдзе ўбок?



Што тады рабіць? —
дзівіцца хлопчык.



Хлопчык выцягвае
з кішэні канапку.

— Хочаш?



Пячоначны паштэт, гурок і ворс з кішэні.
Гэта найсмачнейшая канапка,
якую толькі каштавала Віта.



Мммм... у жываце зрабілася цёпла. Ёй нават хочацца ўсміхнуцца,
не зважаючы на тое, што зусім нядаўна была раззлаваная.

— А навошта ты малюеш крэскі? —
асцярожна пытаецца хлопчык.




Віта ўжо збіраецца патлумачыць яму,
як раптам уздымаецца моцны вецер.
— Вецер! — кажа хлопчык. —
Я мушу ляцець далей.
Магчыма, мы яшчэ калі-небудзь пабачымся.
— ЛЯЦЕЦЬ ДАЛЕЙ?.. УЖО?


— КУДЫ ТЫ? ПАЧАКАЙ!
Я Ж НАВАТ НЕ ВЕДАЮ,
ЯК ЦЯБЕ ЗАВУЦЬ.
— Эйвінд... А цябе? —
крычыць ён.


— ВІТА! — адказвае яна,
але Эйвінд ужо знік.


Віта нічога не разумее.
Як можна так проста ўзяць
ды знікнуць разам з ветрам?
Ці вернецца ён?
Ці будзе яна чакаць яго?
А калі раптам з ім здарыцца штосьці?
Як недарэчна знікнуць вось так!
Насамрэч, вельмі дзіўна.




А яшчэ ў яго дзіўнае пытанне. Вельмі дзіўнае.
Хто заўгодна ведае,
навошта я малюю крэскі!
Але, у кожным разе, ягоная канапка
была вельмі смачнай.


Напэўна, думае Віта,
мы маглі б
пасябраваць з ім.
Але... раптам я яму не спадабалася ..........


..........і таму ён паляцеў прэч.


Я мушу знайсці яго,
думае Віта.
Але як знайсці таго,
каго здзьмуў вецер?


— Вы раптам не бачылі хлопчыка, які праляцеў міма? —
пытаецца Віта. —
Ён мой сябра, і я мушу знайсці яго.
Прэч з дарогі, малеча!
Хлопчыкі не лётаюць у небе!
Прэч з дарогі


Хлопчык, які рабіў што?!
Ідыёт!
Мне трэба праехаць тут!



А вецер усё дзьме ды дзьме.
Цятер ужо ў іншы бок.
Цятер на...
А цятер на паўночны захад.
А цятер на паўночны ўсход.
А цятер на паўднёвы захад.




... паўднёвы ўсход.
А цятер вышэй.
А цятер на паўночны паўночны ўсход.


— Вецер! — крычыць Віта. — Што ты зрабіў з маімі сябрамі?
Але вецер не адказвае.


Раптам
робіцца ціха.
Чуецца толькі ціхі шэлест.
Можа, цяпер ён ізноў
зваліцца ў маё вядро,
думае Віта.
Яна глядзіць вакол.


Але
дзе ж дарога?


Ніякай дарогі!


Ніякага сябра.


У Віты больш няма сілаў.


Цяпер яна хоча
толькі плакаць.


На ўзыходзе сонца, калі ўважліва прыгледзецца,
можна пабачыць маленькую кропачку,
зусім далёка-далёка на даляглядзе.
Гэта хтосьці крочыць наперад.
Ён упэўнена праходзіць крэску за крэскай...
Крэску
за крэскай...